# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі ◇



## СВЕТ

### АБ СІТУАЦЫІ НА БЛІЖНІМ УСХОДЗЕ

Нядаўна прэзідэнт Сірыі Асад даў інтэрв'ю ліванскай газеце «Аль Анвар». У гэтым інтэрв'ю прэзідэнт Асад падкрэсліў, што ў часе свайго апошняга візіта ў Савецкі Саюз падпісаў многа пагадненняў адносна сірыйска-савецкіх эканамічных суадносін, а таксама ваеннай дапамогі з боку Савецкага Саюза.

Маючы на ўвазе праект нейтральнасці басейна Міжземнага мора Асад сцвердзіў, што яго краіна перш за ўсё цікавіцца праблемай ізраільскай агрэсіі. «Імкнемся, — сказаў Асад, — каб ЗША адышлі з Палесціны, а потым і з басейна Міжземнага мора». Гэтая фармулёўка дала да зразумення, што Сірыя атаясамлівае Ізраіль з ЗША.

### ПЕРАГАВОРЫ ГДР — ФРГ

На першым, пасля канікулаў, пасяджэнні заходнегерманскага ўрада прынята пастанову аб упаўнамочанні сакратара стану Э. Бара (галоўнага негацыятара) да «пераўтварэння дагэтуляшняга абмену поглядамі з прадстаўнікамі ўрада ГДР у афіцыяльныя перагаворы».

Прыняццё гэтай пастановы абазначае, што ў рамках т. зв. «усходняй палітыкі» кааліцыйны ўрад, прадстаўляючы партыі СПД і ФДП, зрабіў новы, пазітыўны крок.

Трэба мець надзею, што «афіцыяльныя перагаворы» Э. Бара з прадстаўніком урада ГДР М. Колем, цяпер пойдуць больш гладка, чым дагэтуляшні «абмен думкамі».

### ПРАЕКТ КАНВЕНЦЫІ

Урад Савецкага Саюза перадаў генеральнаму сакратару ААН просьбу, каб на парадак дня XXVII сесіі Генеральнай асамблеі ААН упісаць пункт, прапануючы «апрацаванне міжнароднай канвенцыі аб прынцыпах выкарыстоўвання паасобнымі дзяржавамі штучных спадарожнікаў Зямлі да непасрэдных тэлевізійных перадач».

У пісьме падкрэсліваецца, што магчымасць вядзення тэлевізійных перадач пры дапамозе спадарожнікаў — гэта адзін з найбольш карысных напрамкаў выкарыстоўвання Космасу. Аднак гэта стварае праблемы, звязаныя з неабходнасцю загарантавання такіх умоў, каб гэты від тэхнікі служыў выключна міру і дружбе паміж народамі. Асновай дзейнасці дзяржаў у гэтай галіне павінна быць узаемнае пашанаванне суверэнітэту дзяржаў.

### МАНГОЛІЯ

...у апошнім часе ўстанавіла дыпламатычныя адносіны з Японіяй, Чылі, Рэспублікай Бангладэш і інш. Зараз Манголія ўтрымоўвае дыпламатычныя адносіны з 60 дзяржавамі.

### У ГДР...

...налічваецца 54 універсітэты і вышэйшыя навучальныя ўстановы. У іх вучыцца 139 тыс. слухачоў, у тым ліку амаль палова жанчын (даныя за 1970 г.). На кожныя 10.000 насельніцтва тут 81,3 студэнтаў (41,7 студэнтаў у 1955 г.). У палітэхнічных школах навучаецца 164.000 чалавек, з чаго 80 прац. гэта жанчыны. (А. К.)



## БССР

### АБ СПОРЦЕ

У Мюнхене распачнуцца зараз алімпійскія спартыўныя спаборніцтвы. Прымуць у іх удзел таксама спартсмены Савецкай Беларусі. Дык варта прыпомніць, што спартыўнаму выхаванню грамадзян у БССР заўсёды ўдзялялася і ўдзяляецца вялікая ўвага. Аб гэтым красамоўна сведчаць хоць бы такія лічбы: зараз у Беларусі ёсць звыш 70 добраўпарадкаваных стадыёнаў, амаль 2 тысячы спартыўных залаў, 44 басейны, больш чым 42 тысячы спартыўных пляцовак і палёў, 899 лыжных баз, больш чым 800 стралковых ціраў, а каля 60 буйных спартыўных аб'ектаў знаходзіцца зараз у стадыі будаўніцтва.

### ВЕСТКІ З ПАЛЁЎ

У калгасе «XXIV партз'езд» Чачэрскага раёна ў мінулым годзе вырасцілі ў сярэднім па 25,5 цэнтнера збожжа з кожнага гектара. Сёлета першая камбайнавая малацьба паказала, што кожны гектар жыта сыпле па 33—35 цэнтнераў, а пшаніца і авёс даюць па 30 цэнтнераў.

Механізатары саўгаса «Чырвонае» Маладзечанскага раёна прыступілі да сацыялістычнага спаборніцтва за лепшыя вынікі ва ўборцы хлеба. Вынікі гэтага спаборніцтва падводзяць кожны дзень, а за пяціднёўку пераможцам уручаюць вымпелы і грашовыя прэміі за першае, другое і трэцяе месцы. Для прыкладу, шафёр Яўген Шарамет атрымаў нядаўна 15 рублёў прэміі.

У калгасе імя XX з'езда КПСС палявыя брыгады своечасова правялі ўборку льну са звыш 140 гектараў. Таксама спраўна прайшла ўборка льну ў калгасе «Кастрычнік».

На цэнтральнай плошчы горада Паставы ўзвышаюцца залацістыя снапы, а над іх металічнымі каласамі ярка гараць чырвоныя зоркі, якія абазначаюць лепшыя калектыўныя гаспадаркі раёна. Так у раёне ўшаноўваюць перадавікоў уборкі. Пад адной зоркай значыцца: калгас «Ленінскі шлях». Ураджайнасць збожжа ў ім — 40 цэнтнераў з гектара.

### ЛЮБАНСКІ МУЗЕЙ

Больш за 170 экспанатаў налічвае Любанскі музей народнай славы. Кожны месяц музей папаўняецца новымі матэрыяламі. Нядаўна на месцы захавання падпольнай рэдакцыі, недалёка пасёлка Похіль, знойдзена клішэ з надпісам «Знішчэнне нямецка - фашысцкіх захопнікаў». У музей паступіла таксама газета «Звязда» за 14 жніўня 1943 года, а таксама іншыя экспанаты, якія расказваюць аб нядаўным мінулым беларускай зямлі.

### ПАДАРУНАК

Як мы ўжо інфармавалі, нядаўна ў Доме афіцэраў у Мінску дэманстравалася выстаўка польскай кніжкі. Яна адлюстроўвала 25-гадовы шлях выдавецтва Міністэрства Абароны ПНР. Усе кніжкі, якія знаходзіліся на гэтай выстаўцы былі падараваны для бібліятэкі Дома афіцэраў, у якой ствараецца аддзел польскай ваеннай кніжкі. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### НАРАДА Ў ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ ПАРП

7 жніўня адбылася нарада ў Цэнтральным камітэце ПАРП, якую вёў сакратар ЦК ПАРП Ф. Шляхціц. На пасяджэнні былі абмеркаваны актуальныя праблемы партыйнай працы і яе новыя задачы, крымская сустрэча Э. Герка, а таксама ўсе іншыя сустрэчы і нарады.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО І ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

8 жніўня адбылося супольнае пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада, якое прысвячалася абмяркоўцы забеспячэння вясковага рынку ў час жніва, праграмы развіцця і мадэрнізацыі энергетычнай сеткі на вёсцы, бяспекі і гігіены ў прадпрыемствах, а таксама рэалізацыі сацыяльнай праграмы.

### НАРАДА Ў РАДЗЕ МІНІСТРАЎ

8 жніўня адбылася нарада ў Радзе Міністраў, якая прысвячалася гаспадарчым задачам на 1973 год. Нараду вёў прэм'ер П. Ярашэвіч.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА

5 жніўня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з І сакратаром ЦК БПК, старшынёй Рады Дзяржавы БНР, Тодарам Жыўкавым. У часе сустрэчы Э. Герэк і Т. Жыўкаў абмеркавалі найважнейшыя справы, звязаныя з далейшым развіццём польска-балгарскіх адносін.

### ВІЗІТЫ П. ЯРАШЭВІЧА

10 жніўня старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч наведаў рабочы калектыў Варшаўскай фабрыкі дамоў на Служэўцу. Прэм'ер знаёміўся з актуальнай вытворчай сітуацыяй прадпрыемства, а таксама з умовамі працы і сацыяльнымі ўмовамі калектыву.

* ❊ *

7 жніўня старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч наведаў некаторыя паветы Апольскага ваяводства. Цікавіўся ён дзейнасцю некаторых ПГР-аў, ПОМ-аў і кааператываў, а таксама арганізацыяй жніўных прац у іх.

### ВІЗІТЫ ЧЛЕНАЎ КІРАЎНІЦТВА ПАРП

10 жніўня член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Ф. Шляхціц правёў сустрэчу з актывам павятовага камітэта ПАРП у Олькушу і грамадскім партыйным актывам у Піліцы. Знаёміўся ён з формамі і метадамі палітычнай працы.

Сакратар ЦК ПАРП С. Кавальчык наведаў у той самы дзень ПГР і кааператыў Ршэў, Сарнуў і Дамбрууку каля Згежа.

Член Сакратарыята ЦК ПАРП З. Жандароўскі сустрэўся з партыйным актывам рэгіёну і ўдзельнічаў у вытворчай нарадзе калектыву альштынскіх прадпрыемстваў аўтамабільных шынаў, якая прысвячалася праблемам рэалізацыі гаспадарчых задач гэтага прадпрыемства ў другім паўгоддзі г.г.

### РАСЦЕ КАРАЛЕЎСКІ ЗАМАК

Не слабне грамадская ахвярнасць пры пабудове Каралеўскага замка ў Варшаве. Дагэтуль пры яго пабудове працавала грамадскім чынам 27 тысяч асоб з нашай краіны і з замежных краін. (яц)



## ВАЯВОДСТВА

### ГАСПАДАРЧАЯ НАРАДА

На фастаўскім камбінаце адбылася гаспадарчая нарада, на якой абмяркоўваліся вынікі працы прадпрыемства за першыя 7 месяцаў гэтага года, а таксама кірункі ідэйна-выхаваўчай працы. На нарадзе прысутнічалі кіраўнік Бюро лістаў і інспекцыі ЦК партыі З. Алейняк, сакратар ВК партыі Ул. Юшкевіч, інспектар ЦК партыі В. Главацкі і І сакратар гаркома партыі ў Беластоку Р. Жукоўскі.

У дыскусіі гаварылася аб цяжкасцях у выкананні планаў і аб спосабах іх перамагання.

### СПРАВЫ ТУРЫЗМУ

12 жніўня адбылося пасяджэнне Ваяводскага калектыву па справах каардынацыі падрыхтоўкі і правядзення турыстычнага сезону. Вёў пасяджэнне намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч. Было ацэнена, што, агульна беручы, наша гатоўнасць да турыстычнага сезону сёлета была значна лепшай, чым у мінулыя гады. Аднак наша ваяводства наведала значна больш турыстаў, чым прадбачвалася. Таму на будучы год значна трэба павялічыць колькасць пунктаў гастраноміі, пільнаваных паркінгаў, кемпінгаў і палаткавых палёў. Падкрэсліваўся на пасяджэнні недахоп кадраў, а таксама няпоўны асартымент патрэбных прадуктаў. На заканчэнне нарады тав. Р. Лазаровіч выдаў шэраг канкрэтных загадаў кіраўнікам аддзелаў ПВРН і звярнуўся з прапановамі да дырэкцыі ПКП, ПКС, ЦПН і інш.

### СЯРОД ГАРЦЭРАЎ

Прадстаўнікі ваяводскіх улад — старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха, сакратар ВК партыі Ул. Юшкевіч, старшыня Ваяводскай рады сяброў гарцэрства і намеснік старшыні ПВРН Р. Лазаровіч, намеснік кіраўніка аддзела прапаганды ВК партыі К. Пятроўскі ў суправаджэнні каменданта Харугві ЗГП С. Кэнскі — наведалі гарцэрскія лагеры на Аўгустоўшчыне.

Госці сустрэліся з удзельнікамі вучэбнага лагера гуфца ЗГП Беласток — горад над возерам Студзянічным. Там каля 180 гарцэраў і гарцэрак вучылася выконваць функцыі дружыновых і застэмповых. Госці пабывалі таксама ў лагеры аўгустоўскіх гарцэраў над возерам Сэрвы, наведалі беластоцкую моладзь на Сухой Рэчцы. Усюды гарцэры вельмі сардэчна віталі гасцей, знаёмілі іх са сваімі дасягненнямі, дзяліліся ўражаннямі.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

10 год назад, у 1962 годзе, былі навязаны сяброўскія кантакты паміж беластоцкай арганізацыяй ЗМС і Каўнаскім камітэтам камсамола. Штогод гэтыя пагранічныя вобласці абменьваюцца маладзёжнымі дэлегацыямі. Ад 7 да 12 жніўня ў Беластоку прабывала група дзеячоў камсамола з Каўнаса, а ў Каўнасе знаходзілася група беластоцкіх ЗМС-аўцаў. Каўнаскія госці наведалі найбольшыя прадпрыемствы Беласточчыны і пабывалі ў Варшаве. (яч)




**Niedziela — 20.VIII.72**
8.15 Program. 8.20 Przypominamy, radzimy. 8.30 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.50 Alarm przeciwpożarowy trwa. 9.00 „Żelazny krzyż” — seryjny film polski („Stawka większa niż życie”). 10.00 „Melanezja” IV — rep. film. („W cztery świata strony”). 10.30 W obiektywie — notatnik film. z krajów socjalistycznych. 11.00 „Przedstawiamy laureatów Konkursów muzycznych — Natalia Gawriłowa”. 11.25 „Porwany za młodu” — film fab. NRD. 13.10 Dziennik. 13.25 Przemiany. 14.00 Dla dzieci: J. Wilkowski „Tam swoboda czeka na cię” („Ula i świat”). 14.25 „Piosenki w mundurze”. 15.00 „U progu Olimpiady” („W starym kinie”). 16.00 „Róże pustyni” („Klub sześciu kontynentów”). 16.40 PKF. 16.55 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej — Reprezentacja olimpijska Polski — (Kraków). 18.45 „Monachium przed Olimpiadą” — cz. IV. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Jedyny świadek” — seryjny film ang. — odc. II („Wielki napad”). 20.55 „Maraton” — film dokument. 22.20 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek — 21.VIII.72**
16.40 Program. 16.45 Dziennik. 17.05 „Kraina słoni” — dokument. film TV ang. 17.55 Echo stadionu. 18.25 Spacerkiem po kinach. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Letni Przegląd Teatru Telewizji: E. Radziński „Godziny miłości”. 21.35 Ex Libris. 22.10 Dziennik. 22.25 Recital Thomasa O'Leary — tenor (USA).

**Wtorek — 22.VIII.72**
10.00 „Kobieta w bieli” — film franc. — odc. VI (ostatni). 11.10 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 Oferty. 17.10 „Na polickiej budowie” (Szczecin). 17.35 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kobieta w bieli” — film franc. — odc. VI (ostatni). 21.15 Pożegnanie olimpijczyków — program estradowy. 22.15 Dziennik. 22.30 Magazyn oświatowo-wychowawczy.

**Środa — 23.VIII.72**
10.00 „Historia jednego myśliwca” — film fab. polski. 11.20 Przerwa. 16.40 Program. 16.45 Dziennik. 16.55 Teleferie. 18.20 Telewizyjny Kurier Warszawski. 18.40 Świat i Polska. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Ambasadora Rumunii z okazji święta narodowego SRL. 20.15 PKF. 20.30 XII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Dzień Międzynarodowy. w przerwie Festiwalu Dziennik i Wiadomości sportowe.

**Czwartek — 24.VIII.72**
16.40 Program. 16.45 Dziennik. 16.55 Magazyn ITP.. 17.10 Bieg po zdrowie. 17.35 „Czas upłynął” — film dokument. polski. 17.55 Telewizyjny Kurier Olsztyński. 18.15 „Miasteczko przy międzynarodowej trasie”. 18.45 „Ekspress Nr 7”. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przed XX Igrzyskami Olimpijskimi w Monachium. 20.30 XII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Dzień Polski. w przerwie Dziennik i Wiadomości sportowe.

**Piątek — 25.VIII.72**
10.00 „Armanda” — film fab. bułgarski. 11.10 Przerwa. 16.25 Program. 16.30 Dziennik. 16.40 Turystyka i wypoczynek. 16.55 Teleferie. 17.50 Magazyn Medyczny. 18.20 Telewizyjny Kurier Mazowiecki. 18.40 Kraj. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Jutro Olimpiada”. 20.30 XII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Dzień Płytowy. w przerwie Dziennik i Wiadomości sportowe.

**Sobota — 26.VIII.72**
10.00 „Alfa, Romeo i Julia” — film fab. węgierski. 11.30 Przerwa. 14.15 Program. 14.20 Program I proponuje. 14.45 XX Igrzyska Olimpijskie w Monachium. 17.00 Dziennik. 17.10 „Wnukowie” — film fab. (western). 18.00 Spotkania z przyrodą. 18.35 „Godzina Orfeusza” — Magazyn muzyczny, Nr 13. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.30 XII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Koncert Laureatów. w przerwie Dziennik i Wiadomości sportowe. 23.30 XX Igrzyska Olimpijskie w Monachium.




**PIĄTEK, 18 sierpnia**
8.15 „Skok o świcie” — film. 9.50 Gorący czas we wsi. 10.00 Melodie Dunajewskiego. 10.45 „Szklane drzwi” — film dokumentalny. 11.15 Nowiny. 15.25 Program. 15.50 Nauka rolnictwu. 16.00 Nowiny. 16.10 Ekonomia. Nauka. Produkcja. 16.30 Program dla dzieci. 17.00 Koncert z okazji dnia lotnictwa ZSRR. 19.00 „Czas”. 19.30 „Czekajcie nas o świcie” — film. 21.00 Melodie wieczorne. 21.40 Panorama nowin.

**SOBOTA, 19 sierpnia**
8.30 Odpowiedź na pytanie telewidzów. 9.00 Wzory. 9.30 Przegląd międzynarodowy. 9.55 Klub szachistów. 10.15 Program dla dzieci. Spektakl. 11.00 Zdrowie. Naukowo-popularny program. 11.30 Śpiewa T. Sieniowska. — film. 12.15 Trybuna literacka. 12.30 Przegląd międzynarodowy. 13.00 Sztafeta męstwa. O lotnictwie. 13.20 Koncert poświęcony pilotom lotnictwa. 14.05 W świecie zwierząt. 15.15 Program literacki. 16.00 Nowiny. 16.10 Program filmów rysunkowych. 16.40 Mgły Brytanii. Dokumentalny film. Część I. 17.40 Jechali tramwajem Ilf i Pietrow — film. 19.30 W eterze „Młodość”. 21.10 Arie. Scena z opery Czajkowskiego, Jewgienij Oniegin. 21.40 Nowiny.

**NIEDZIELA, 20 sierpnia**
7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.20 Nowiny. 7.30 Koncert. 8.00 Występuje zastępca ministra cywilnego lotnictwa ZSRR Ł. S. Siecznikow. 8.15 Kiosk muzyczny. 8.45 Program dla dzieci. 9.45 Czerwony konik — film. 10.55 Nowiny. 11.00 Godzina w rolnictwie. 12.00 W którymś państwie — film. 12.30 Program dla wojska. 13.00 Transmisja z obozu pionierów. 13.50 Występuje marszałek lotnictwa R. S. Kutachow. 14.05 Piosenka — towarzysz. 15.00 Klub kinopodróżników. 16.00 Nowiny. 16.25 Obserwator polityczny gazety „Prawda” odpowiada na pytania telewidzów. 16.55 Spotkania muzyczne. 17.25 Mgły Brytanii — film. Część II. 18.15 Dzień dobry — piosenka. 19.00 Czas. 19.30 Od rodzinnych niw — białoruski film dokumentalny. 19.50 Chwila ciszy — film. 21.25 Nowiny.



# У Ставішчах на супольным

Калі наведаў я вёску Ставішчы, што ў Гайнаўскім павеце, на палях яшчэ безупынна грукаталі жняяркі, ішла ўборка жыта, даспяваў ячмень, залаціўся авёс.

Ішоў я апусцелай вуліцай і не мог адагнаць ад сябе нахлынуўшых успамінаў. Зараз жа пасля вайны, у 1947 годзе, калі хадзіў я ў пяты клас пачатковай школы ў Чарэмсе (12 кіламетраў ад маёй роднай вёскі), я нейкі час жыў у Ставішчах. Тады на станцыі Чарэмха я ўпершыню ўбачыў электрычнае святло. Аднак, калі вяртаўся ў Ставішчы, калі праходзіў гэты кіламетр дарогі са станцыі ў вёску, я зноў апынаўся пры газоўцы. Ставішчы ў маёй памяці засталіся саламянай, забалочанай, тыповай для паўднёва-ўсходняй Беласточчыны беларускай вёскай з вельмі асаблівай, рэдкай мясцовай гаворкай, у якой зусім адсутнічае мяккае «л» (*ходылы, робылы, оны говорылы*), а іншыя мяккія зычныя выступаюць вельмі рэдка (*кунь, цюкор*).

За дваццаць пяць год мясцовая гаворка ў Ставішчах амаль зусім не змянілася, але вёска, яе выгляд, яе дабрабыт... Гэта відаць на кожным кроку. Вёска ўзапар падцягнулася да станцыі Чарэмха, якая для многіх ставішчан з'яўляецца месцам працы і неблагога прыбытку.

— У Ставішчах, — гаворыць солтыс, — жыве амаль 100 сем'яў. Але сапраўдных гаспадароў налічыў бы я вам не больш чым 70. Зямля ў нас слабая, пясчаная, патрабуе многа працы, а тут кругом шмат лягчэйшы заробак — і на станцыі Чарэмха, і далей у Гайнаўцы або ў Беластоку. Дык уцякаюць людзі, асабліва маладыя.

А зямля застаецца. Не толькі ў Ставішчах. Паводле дадзеных сельскагаспадарчага аддзела Прэзідыума ВРН у Беластоку, дзяржаўны фонд зямлі на Беласточчыне ў 1971 годзе складаў плошчу ў 77 тысяч гектараў і на працягу апошніх 15-ці гадоў павялічыўся прыблізна на 45 тысяч га.

Што рабіць з гэтай зямлёй, каб яна не парастала чартапалохам, каб давала плён?

У Ставішчах, здаецца, знайшлі найлепшае вырашэнне гэтай істотнай гаспадарчай праблемы. Дзяржаўным фондам зямлі заняўся мясцовы сельскагаспадарчы гурток.

— Пад нашай апекай, — інфармуе Сцяпан Свентахоўскі, — знаходзіцца зараз каля 200 гектараў сенажаці і 150 га поля. У гэтым годзе мелі мы 64 га жыта, 18 га аўса, 10 га пшаніцы, паўтара гектара бульбы і крыху лубіну ды пялюшкі.

Сцяпан Свентахоўскі — палявы брыгадзір, ён адказны за гурткоўскае поле.

— Як вам гаспадарыцца на супольным? Якіх вынікаў вы дасягнулі?

— Пра вынікі гаварыць яшчэ ранавата, — адказвае ён. — Гэта толькі пачатак нашай супольнай гаспадаркі, бо да 1971 года дзяржаўны фонд зямлі ў Ставішчах размеркаваны быў па цераспалосіцы і толькі праведзеная ў мінулым годзе камасацыя поля стварыла ўмовы для супольнай гаспадаркі. У мінулым годзе сабралі мы па 20 цэнтнераў збожжа з гектара, а ў гэтым — спадзяемся каля 25-ці.

— Як вы сабе арганізуеце працу?

— Маем 13 машынатрактарных камплектаў, маем камбайн, дык арэм, сеем і збіраем машынамі. У дапамогу машынам наймаем крыху людзей, асабліва жанчын. У нас за месяц можна зарабіць у сезоне да 3 тысяч злотых. І ахвотныя знаходзяцца. Нават са станцыі Чарэмха прыходзяць.

— Поле, — гавару яму, — як вядома, патрабуе ўгнаення, ды не толькі мінеральнага, штучнага...

— Вядомая справа, — спыняе мяне брыгадзір. — Але і з гэтым бяды мы не маем, бо развілі ўласную жывёлагадоўлю.

Гэтая галіна супольнай гаспадаркі ставішчанскага «кулка» належыць заатэхніку Канстанціну Лагвінюку.

Жывёлагадоўлю завялі мы ў сябе ледзь 15 мая 1972 года. Пакуль што маем 146 штук вольцаў (маладых бычкоў) і ялавак. Прадукцыйны цыкл разлічаны ў нас на 6 месяцаў. Гэта так званы летні адкорм цялят. На будучае лета хочам ужо ўзяць да сябе на адкорм аж 500 штук цялят, а ў наступных гадах яшчэ болей будзем павялічваць сваю супольную жывёлагадоўлю. Ужо запланавалі мы пабудову новай, добра абсталяванай аборы, у якой змесцім высакамалочных кароў. Маем мы многа зялёных угоддзяў, і гадоўля быдла — гэта наша будучыня.

Са Ставішч вывозіў я зусім новы вобраз гэтай вёскі. У грамадскай радзе на станцыі Чарэмха сказалі мне, што ў 1971 годзе ўсе гаспадары з шасці вёсак, якія складаюць цяпер Чарэмхаўскую ГРН, прадалі дзяржаве амаль 250 тон збожжа, а адзін сельгасгурток у Ставішчах у першым годзе свайго гаспадарання на супольным даставіў у дзяржаўныя засекі аж 100 тон хлеба. У гэтым годзе гэтая колькасць падвоіцца.

*М. Нурэцкі*
*Фота В. Рудчык*



*Штаб сельгасгуртка ў Ставішчах на летні гарачы сезон размясціўся ў садочку. Справа: рахункавод Эмілія Лагвінюк, палявы брыгадзір Сцяпан Свентахоўскі і касірша Вера Смык.*



*Зноў штосьці сапсавалася. На 13 трактараў працавала ў Ставішчах толькі 10.*

# Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

*СЯМЕЙНАЯ*




*— Вэрбонько кудравая,*
*Хто тобі, вэрбо, корынь пудмыв?*
*Хто тобі, вэрбо, корынь пудмыв?*
*— Пудмыла вода быстра,*
*Ны пуйду замуж сёго года.*
*Ны пуйду замуж сёго года.*
*Но пуйду замуж аж пятого:*
*За пяньчэньку проклятого.*
*За пяньчэньку проклятого.*
*Говорат люды, што вын ны п'е, —*
*За одну ночку коня проп'е.*
*За одну ночку коня проп'е.*

*Пропыв коніка вороного —*
*Йдэ до стаенкі по другого.*
*Йдэ до стаенкі по другого.*
*А я, молода, пэрэд ёго*
*Нэсу рубліка золотого.*
*Нэсу рубліка золотого.*
*Нэсу рубліка золотого —*
*Выкуплю коня вороного.*
*Выкуплю коня вороного.*
*— Ой, як выкупыш, люблю тыбэ*
*Як ны выкупыш — заб'ю тыбэ.*
*Як ны выкупыш — заб'ю тыбэ.*

Ад Внучко Анны, 1904 года нараджэння, вёска Чарэмха Гайнаўскага павету, запісаў 17 мая 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.

# У Літвінавічах актыўная моладзь

Вёска Літвінавічы Сямяціцкага павету невялікая, усяго каля 60 дамоў. Аднак у цэлай акрузе вядомая яна сваёй актыўнай моладдзю. Моладзь згуртавалася тут у двух гуртках: БГКТ і ЗМВ. Гурток БГКТ налічвае тут 26 асоб і ЗМВ — 14 асоб.

У Літвінавічах ёсць невялікая святліца, якую раней супольнымі намаганнямі пабудавала моладзь. Апрача таго, яна зрабіла каля яе лавачкі і пабудавала агароджу. Калі ўжо гаварыць аб грамадскім зруху моладзі, дык неабходна дадаць, што актыўна ўдзельнічала яна таксама ў пабудове мясцовых дарог. Цяпер тут ужо добрыя дарогі.

Паколькі святліца ў Літвінавічах замалая, маладыя жыхары гэтай вёскі задумалі пабудаваць новую, мураваную святліцу. Гаспадарчым спосабам пачалі яны рабіць пустакі ў мясцовым сельгасгуртку. Зрабілі іх шмат. Звезлі пад старую святліцу. На гэтым аднак усё скончылася. Ніадкуль не было дапамогі. Звярталіся да грамадскіх улад у Клюковічах. Без выніку.

Ініцыятыва моладзі памалу ўпадала. Мо і маладыя непатрэбна пачуліся бездапаможнымі? Мо не хапала таго ранейшага станоўчага падыходу? Відаць, сітуацыю гэтакую трапна прыкмеціў сам старшыня клюковіцкай ГРН, Уладзімір Дамалюк, калі не спяшаўся з дапамогай. Неяк ніхто не патрабаваў дапамогі ў мясцовым сельскагаспадарчым гуртку, які штогод мае даходы і, як дагэтуль бывала, кожную добрую ініцыятыву намагаўся падтрымаць. Відаць, найбольш адказныя арганізатары пабудовы культурнага аб'екта, як Ірэна Мішчук — старшыня гуртка ЗМВ, Анатоль Леўчук — малады мясцовы трактарыст і іншыя замнога часу прысвячалі на, безумоўна, важныя разважанні, але не на практычныя і канкрэтныя вырашэнні. Хто яго ведае? Справа пабудовы святліцы знайшлася ў тупіку. Аб адным толькі моладзь не забывала. Як і раней, дагэтуль актыўна працуе яна ў драмгуртку (другое месца на павятовым аглядзе драмгурткоў у мінулым годзе), многа часу адводзіць спартыўным розыгрышам, розным культурным мерапрыемствам, танцавальным вечарынам і г.д.

У канцы чэрвеня г.г. адбыўся ў Літвінавічах беларускі фэстын, да якога асабліва старанна рыхтавалася літвінавіцкая моладзь. Фэстын, а можа нават цесната ў мясцовай святліцы ў час фэстыну, неяк зноў устрывожыла маладых літвінаўцаў. — Дакуль мы будзем арганізоўваць культурныя мерапрыемствы ў гэтай цеснаце? — гаварылі яны. — На што рабілі мы гэтыя пустакі?..

Ізноў моладзь звяртаецца за дапамогай да старшыні ГРН у Клюковічах. На гэты раз старшыня запэўніў, што знойдзе ў сябе «фінансы» на пустакі, штук на 400—500. З дапамогаю моладзі прыйшло таксама Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Таварыства перадало моладзі крэслы на абсталяванне святліцы. Крэслы гэтыя моладзь прывезла ў Літвінавічы пры дапамозе «кулковага» транспарту.

Падчас жніва моладзь дапамагала адзінокім пажылым аднасяльчанам, а таксама шмат часу прысвяціла арганізацыі вясковага дзяцінца. Пасля пільных палявых работ моладзь пачне грамадскі чын пры пабудове вясковай святліцы.

*Я. Цялушэцкі*

# МЕЛІЯРАЦЫЯ — справа важная

Зараз на Беласточчыне меліяравана 162 тысячы гектараў сенажацяў і пасбішч, што складае 43% усіх «зялёных» угоддзяў. Вялікае запатрабаванне на меліярацыю выступае ў Бельскім і Беластоцкім паветах. Меліярацыйныя працы праведзены тут у пяцідзесятых гадах і таму зараз меліярацыйныя аб'екты патрабуюць упарадкавання, а нават перабудовы. Сёлета будзе праведзена кансервацыя рэк агульнай даўжыні 2 350 кіламетраў і 900 кіламетраў равоў.

Вернемся яшчэ да найбольш патрабуючых меліярацыі паветаў. На Гайнаўшчыне ёсць 27 тысяч гектараў усіх сенажацяў. Палавіна іх меліяравана. Толькі ў мінулым годзе меліяравана тут 520 га зямельных угоддзяў у ваколіцах Ягаднікаў, Збуча, Барка, Дубічаў Асочных і іншых. Поўнае загаспадаранне сенажацяў праводзіцца тут у Горным Грудзе і Гародчыне. Аб'екты гэтыя займаюць плошчу ў 496 га. Дагэтуль загаспадарана на Гайнаўшчыне 8 «дзікіх» пасбішчаў абшарам у 1065 га.

Варта адзначыць, што зараз сяляне, між іншым, са Старога Корніна, Мора, Лазовага, Новага Ляўкова і Баб'яй Гары накошваюць па 80 і больш цэнтнераў сена з 1 га.

У Беластоцкім павеце толькі за першае паўгоддзе г.г. праведзена меліярацыя 600 га зямельных угоддзяў і 439 га лугоў і пасбішч. У меліярацыйных работах дапамагаюць самі жыхары вёсак Зубкі, Зубры, Рафалоўка, Козлікі, Баршчэва і іншых, у раёне якіх праводзяцца меліярацыйныя працы. Грамадскі чын сялян пры карчаванні, капанні равоў, пры пабудове вадапояў і даязных дарог склаў суму 1,5 мільёна злотых.

Як бачым, сяляне належна ацэньваюць зараз меліярацыю. Дзякуючы ёй ратуем мы мільярды. Меліяраваныя і добра дагледжаныя лугі і пасбішчы — гэта больш малака і мяса. А яно патрэбна нам усім.

*Я. Цялушэцкі*

# ТРЫБУНА чытачоў

## СЕЛЬГАСГУРТКІ І ДФЗ

Шмат нявыкарыстаных рэзерваў існуе ў сельскай гаспадарцы Гайнаўшчыны. Перш за ўсё трэба належна выкарыстаць дзяржаўны фонд зямлі. Частку яго апрацоўваюць індывідуальныя сяляне, спулдзельні прадукцыйныя і ПГР-ы, а таксама сельскагаспадарчыя гурткі. І так сельгасгурток у Ставішчах апрацоўвае 357 га, у Палічнай 253 га, у Іванках 239 га, у Навасадах 76 га і г.д. Усе 10 сельгасгурткоў працуюць на 1211 га зямельных угоддзяў.

Нягледзячы на тое, што землі гэтыя невысокай якасці, ураджаі аднак добрыя, таму, што сельгасгурткі ў сярэднім даюць па 210 кг НПК на 1 гектар. Ва ўсіх гуртках збожжа ў сярэднім дало па 29 цэнтнераў з 1 га. Сельгасгурткі з дзяржаўнага фонду зямлі прададуць дзяржаве 7.200 цэнтнераў збожжа.

Восенню сельгасгурткі на дзяржаўным фондзе зямлі засеюць 547 га жыта і 13 га пшаніцы.

*В. Назарук, Гайнаўка*

## ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### «ЧАМУ?»

Сёння, не вяліка дзіва,
Ў вёсках люд жыве шчасліва.
Дабрабыт пануе, й лад,
Хоць з Івана ўзяць прыклад.
У Івана род такі:
Калісь былі батракі.
З роду ў род ў паноў, ў няволі
Хлебанулі злое долі.
Лепша доля у Івана,
Мала гнаты гнуў на пана.
Надышоў час і пара —
Пан ўлятучыўся з двара.
Вось таму й батрак Іван
сам сабою стаўся пан.
Не на жарты, не для формы
Атрымаў зямлю з рэформы,
Змураваў уласну хату,
Зажыў вольна і багата.
Усё ў Івана шыта-крыта,
Жонка Надзя працавіта.
Апранаецца па модзе,
Ўсё купаецца ў выгодзе.
Іх сыночкі, як дубочкі,
Палявыя краскі-дочкі.
У дастатку, без бяды
Плаўна-спраўна йдуць гады.
Час ляціць ў шчаслівай долі,
Не брак гумару ніколі.
Нат ў пахмурны дні, ці ў буры
Градам сыплюць каламбуры.
Іван, Надзя, сыны й дочкі,
Без засечкі, без адстрочкі.
На жыццё Івана ўзор
Жыве сёння двор у двор.
Хата ў хату, ўсё сяло
І багата й весяло.
Бо прышла шчаслівa эра,
Бо паноў ўзяла халера.

*Міхась Красоўскі, Малынка*

любіў Стэйнбека. Аднак тое, што ён напісаў пра В'етнам, мне незразумела. Я шчаслівы, што большую частку кніг, якія я ўсё жыццё збіраў, мне ўдалося прывезці ў Маскву, і яны цяпер са мною.

— Калі вы не супраць, вернемся да разведкі, — просім мы.

— З 1949 па 1951 год я ўзначальваў місію сувязі англійскай разведкі ў Вашынгтоне. Задачы па сувязі паміж дзвюма разведвальнымі службамі былі толькі знешнім бокам маёй дзейнасці. Мне было даручана Лонданам, з аднаго боку, кансультаваць ЦРУ, па магчымасці накіроўваць гэту ў той час яшчэ маладую ўстанову. З другога боку, перада мною стала вельмі далікатная задача абароны брытанскай сакрэтнай службы ад ЦРУ, якое праяўляла відавочны намер праглынуць свайго саюзніка. Я апынуўся ў логаве амерыканскай разведкі. Менавіта ў гэты перыяд у мяне наладзіліся моцныя сувязі і з Аленам Далесам, і з цяперашнім дырэктарам ЦРУ Рычардам Хелмсам, і з Эдгарам Гуверам, кіраўніком ФБР.

— Ці не маглі б вы, таварыш Кім, хоць бы коратка ахарактарызаваць гэту эліту амерыканскай разведкі?

*(Працяг будзе)*

## УРАЧЫСТЫ КАСЦЁР

Гарцэры з Грэдалёў, што на Бельшчыне, вечарам 22 ліпеня за вёскаю на спартыўным пляцы арганізавалі касцёр. На гэтае ўрачыстае мерапрыемства запрасілі яны жыхароў сваёй вёскі. Дэкламатарскімі і харавымі выступленнямі адзначылі яны 28-ую гадавіну Народнай Польшчы.

*Наглядальнік*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ. Спадчына была падзелена дзевяць год таму назад. Мне прыпадала ў выніку падзелу палавіна прысядзібнага ўчастка, на якой стаіць старая стадола. Я атрымаў дазвол на пабудову новай стадолы і навазіў будаўлянага матэрыялу, аднак наследнік, якому прыпала ў падзеле другая частка прысядзібнага ўчастка, выступіў у суд з патрабаваннем, каб суд забараніў мне будову. Ён сцвярджае, што падзел фактычны спадчыны няважны, а судовага падзелу не было, таму цэлы прысядзібны ўчастак з'яўляецца супольнай уласнасцю маёй і яго і я без яго дазволу не маю права будавацца. Ці можа ён мне забараніць будавацца?

АДКАЗ: Сцвярджэнне, што цэлы ўчастак з'яўляецца супольнай уласнасцю спадчыннікаў, а фактычны падзел яго не мае праўнага значэння — правільнае. Важны падзел можа быць праведзены толькі праз суд або ўмовай натарыяльнай. Аднак, нягледзячы на гэта, ваш праціўнік не можа вам забараніць будавацца. Ён мог бы забараніць будаваць на частцы, якая знаходзіцца ў яго карыстанні. Ён не мае ніякіх праўных падстаў забараніць будавацца на частцы, якая знаходзіцца ў вашым карыстанні, паколькі вы з'яўляецеся саўладальнікам цэлага ўчастка і маеце да ўсяго ўчастка такое самае права, як і ён.




*Дарагое Сэрцайка!*

Жыву я ў горадзе. Споўнілася мне ўжо 15 год. Нядаўна мне прышлося пабываць за граніцай. На гэтую цікавую экскурсію выбралася я з бацькамі. Было цудоўна. Убачыла многа, ды і паглыбіла практычна французскую мову, якой вучылася дома. Але не аб гэтым хачу пісаць. Будучы за граніцай, я пазнаёмілася з хлопцам, які там пражывае. Спадабаўся мне вельмі. Ён ветлівы, прыстойны. Яму таксама столькі год, як і мне. Там хадзіў ён след у след за мною, гаварыў усё кампліменты, ды не толькі, былі і сур'ёзныя, талковыя размовы. Ён быў, так сказаць, як бы маім праваднікам. Размаўлялі мы пафранцузску. У канцы маёй пабыўкі я падарыла яму слоўнік, каб навучыўся польскай мове, бо ён нават на развітанне сказаў, што пакахаў мяне і што будзе пісаць, хто ведае, мо нават пажэнімся. Цяпер я дома ўсё думаю пра гэтага хлопца, чакаю лістаў. А ён, як абяцаў, піша. Не раз мару аб тым, каб у будучыні быць з ім разам.

Цікава, Сэрцайка, што ты аб гэтым скажаш, ці сапраўды варта марыць?

*Люся з Б.*

Люся! Чаму не, марыць можна, але лічыць на гэта не варта. Вам толькі па 15 год, ды і жывеце далёка, далёка адзін ад другога. Хоць цяпер граніца не з'яўляецца вялікай перашкодай, як гаворыць прымаўка, «гара з гарой не зыдзецца, а чалавек з чалавекам можа». Але вясці карэспандэнцыю напэўна варта. Такая карэспандэнцыя і пашырыць твае веды аб гэтым далёкім краі і будзе дасканаліць тваю французскую мову. Не ў тым жа справа, каб зараз думаць аб жаніцьбе, але можна памарыць, што ў будучыні, калі б ваша карэспандэнцыя паглыблялася, можаце паехаць адзін да другога, многа новага ўбачыць. Мець добрых цікавых сяброў сапраўды варта.

Жадаю цікавых і прыемных лістаў.

*Сэрцайка*



Гайнаўка. Гандлёвы павільён пры вул. Бельскай, перададзены нядаўна ў карыстанне ВСС.

*Фота Я. Цялушэцкага*

## НА АЎТОБУСНЫХ ПРЫПЫНКАХ ПА-РОЗНАМУ...

Цяжка сустрэць чалавека, якому б хоць раз не прыйшлося падарожнічаць пэкаэсаўскім аўтобусам. Гэтым масавым сродкам сучаснай камунікацыі можна пад'ехаць амаль у кожны куток Беласточчыны, хаця не ў кожную яшчэ вёску прывядзе праязная дарога. Бывае і так, што да аўтобуснага прыпынку трэба падыйсці добры кавалак дарогі і там пачакаць аўтобуса...

Пачакаць на прыпынку доўга ці мала — у залежнасці ад дысцыпліны машыны і дарожнай пагоды. На прыпынка гэтых, дзякуючы намаганням народнай улады, як грыбы, выраслі беленькія бетонныя будкі з шырокім дашкам, дзвярыма і па-гарадскому вялікімі вокнамі. Далі яны падарожным прытулак ад ветру і мяцеліцы, ды і дождж з таго часу перастаў ужо ліць за каўнер.

Задавальненне, а перш за ўсё тых, што жывуць далей ад шасейнай дарогі, несумненна было вялікае. Адна толькі дробная справа гэтых культурна-сацыяльных прыбыткаў засталася нявырашанай, хто мае даглядаць і сачыць за парадкам на прыпынках, калі ў чыстым полі не відаць ніводнай сялібы з жывымі людзьмі, а бліжэйшая вёска схавалася за ўзгоркам ці пералескам? А мо трэба было б даручыць гэты надзор дарожнаму сторажу?

Як выглядаюць гэтыя будынкі ў некалькі год пасля пабудовы? Трэба прызнаць, што хаця іх аднолькава будавалі, то выглядаюць яны цяпер па-рознаму. Можна сустрэць на трасах нашых дарог прыпынкі, якія вабяць вока чысцінёй і парадкам. Пасаджаныя і дагледжаныя вясенне-летняй парою кветкі сведчаць аб высокім узроўні культуры гэтага асяроддзя.

На жаль, бывае і наадварот. Стаяць толькі рэбры такога прыстанка з абшарпанай столлю і сквазняком, які прабірае косці праз былыя вокны і дзверы. Куды яны падзеліся разам з рамамі — цяжка сказаць напэўна, спатрэбіліся нейкай прыватнай ініцыятыве.

На сценах, якія пакуль што яшчэ стаяць, можна прачытаць рыльцом вырытыя імёны і клічкі сардэчных тайнаў са стрэламі Амура, або і зусім парнаграфічную творчасць кароткага зместу.

Такое становішча корміць стыдам не толькі карыстаючыхся з прыпынку сумленных падарожных, але часткова і багатыя сельскагаспадарчыя арганізацыі, якімі ў даным выпадку з'яўляюцца КР і сельскагаспадарчы калектыў, размешчаны не вельмі далёка па адной і па другой старане шасейнай дарогі.

А мо паспрабаваць яшчэ адрамантаваць гэты прыпынак, а хуліганскія ўчынкі адзінак больш не паўторацца? А пакуль што аўтобусы як на злосць затрымліваюцца перад абшабраваным прыстанкам, каб пасажыры, якія едуць далей, маглі ўбачыць, як не трэба нішчыць аб'екту супольнага карыстання...

Пра які прыпынак, між іншым, ідзе гутарка — чытачы напэўна здагадаюцца.

*У. Шкляpук*



*Басейн у Кляшчэлях. Павятовы аддзел ТПД у Гайнаўцы арганізаваў тут курсы плавання для дзяцей.*

*Фота Я. Цялушэцкага*

## СУСТРЭЧА

Нядаўна ў падставовай школе № 6 у Беластоку адбылася сустрэча моладзі з калоніі з прадстаўнікамі гуртка ЗБоВіД з пасёлка 1000-годдзя. Збавідаўцы расказалі школьнікам аб утварэнні, ролі і значэнні ПКВН, аб станаўленні народнай улады ў Польшчы і барацьбе з падполлем. Затым адбылася мастацкая частка ў выкананні дзяцей з калоніі, якія спявалі ў асноўным песні партызанскія і вайсковыя.

*Васіль Петручук, Беласток*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„W królewstwie ducha gór” (jugosł.), 22—23. „Rycerz szklanego ekranu” (węgierski), 24—25. „Zbrodnia i kara” (radz.), 26—27.

**Нарва**

„Godziny nadziei” (polski), „Spojrzenie na wrzesień” (polski), 23—27.

**Чыжы**

„Kto śpiewa nie grzeszy” (węgierski), „Na torze czeka morderca” (czeski), 23—27.

**Дубічы Царкоўныя**

„Film o miłości” (węgierski), „Kapitan Korda” (czeski), 23—27.

**Арэшкава**

„Zabójstwo inżyniera Czarta” (czeski), „Sklep z modelkami” (angl.), 26—27.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Bicz Boży” (polski), „Cisza! Na sali operacja” (radz.), 23—27.

**Орля**

„Lala” (polski), „Tajemnice Kaliakry” (bułg.), 23—27.

**Райск**

„Cyrk straceńców” (USA), „I znów skaczę przez kałużę” (czeski), 23—27.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Profesor zbrodni” (węgierski), 22—23. „Wiem, że jesteś mordercą” (czeski), 24—25. „Szerokiej drogi kochanie” (polski), 26—27.

**Шудзялава**

„Cytadela odpowie” (rumuński), „Horyzont” (czeski), 23—27.

**Янаў**

„Kupujemy wóz strażacki” (NRD), 23—27.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Dzwon admirała” (angl.), 22—23. „Kodyn” (rumuński), 24—25. „Nie można żyć we troje” (angl.), 26—27.

**Мельнік**

„Koniec agenta W4C” (czeski), 22—23. „Adolf” (franc.), 24—25. „Przyjęcie” (rumuński), 26—27.

**Мілейчыцы**

„Ostatni termin” (USA), 22—23. „Podróż nie z tej ziemi” (węgierski), 24—25. „Nie można żyć we troje” (angl.), 26—27.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Życie rodzinne” (polski), „Najlepsza kobieta mojego życia” (czeski), 23—27.

**Новы Двор**

„Południk zero” (polski), „Wydra pana Grahama” (angl.), 23—27.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 5.231 T-3

# НІЎКА

*З румынскай*

## ДЫЯЛОГ

У рэстаране за столікам сядзяць двое, назавем іх Кастусём і Андрэем. На стале бутэлька з півам.

— Андрэй, дружа, рад цябе бачыць! Як справы? Дзе ты збіраешся правесці водпуск?

— Паглядзім, я яшчэ не вырашыў. А ты?

— У гэтым годзе я маю намер адпачыць шыкарна! Пабываю з усёй сям'ёй ля мора, у гарах, а потым — экскурсія па ўсёй краіне! Вазьму з сабой і старых! Усіх чатырох! Усяго дванаццаць чалавек!

— Ого, гэта будзе каштаваць не мала грошыкаў!

— Нічога, вытрымаю! Я атрымаў прэмію. Пятнаццаць тысяч!

— Не можа быць!

— За рацпрапанову... Што з табой? Табе дрэнна?

— Глупства, Косця. Горача, ды і гэтае піва! Наогул, ты малайчына!

— А ты?

— Што я?

— А ты што збіраешся рабіць у час водпуску?

— Паедзем і мы куды-небудзь. Толькі ўчацвярых. Старых не возьмем. Ні маіх, ні жонкі.

— Чаму ж?

— Месц у «Фіяце» не хопіць.

— У якім «Фіяце»?

— У маім. Ды вось ён (паказвае праз акно рэстарана).

— Няўжо? Як табе гэта ўдалося?

— Вельмі проста! Эканоміў, збіраў у ашчаднай касе і вось... купіў. Што з табой, табе дрэнна?

— Не, нічога, усё ў парадку...

— Мне выдалася, што ты скрыпнуў зубамі...

— Кажу табе, нічога са мной не здарылася. Проста горача ды і гэтае піва... Значыць, у цябе «Фіят»? Падумаць толькі... Добра, паглядзім, ці сапраўды ты мне сябар...

— Гэта значыць?

— Пакінь сваіх дзяцей дома і замест іх вазьмі ў машыну мяне з жонкай.

— Дык ты ж гаварыў, што едзеш усёй сям'ёй, дванаццаць душ...

— Дзе там!..

— А рацпрапанова?

— Глупства...

— Ведаеш, ты цудоўны! Значыць, ніякай прэміі не было? І ўсё гэта прыдумаў, каб пазлаваць мяне?

— Ты не круці. Адказвай, бярэш нас з сабой ці не?

— Вядома, бяру! У поездзе хопіць месца для ўсіх!

— Не ў поездзе, а ў «Фіяце»?

— У якім «Фіяце»?

— Ну, як жа ў якім? Вось у гэтым (паказвае ў акно).

— Адкуль мне ведаць, чый ён?

— Ці ж ён не твой?

— Нічога падобнага!

(Сябры радасна абнімаюцца).

*Садзі Рудзяну*

*Без слоў.*

## ШТО БУДЗЕ ПІЦЬ

Лектар, які чытаў лекцыю аб шкодзе алкаголю, гаварыў:

— Уявіце сабе, што перада мной стаяць бочка з півам і бочка з вадой. У гэты час з'яўляецца асёл. Што ён будзе піць?

— Ваду, — пачуўся адказ.

— А чаму менавіта ваду?

— Дык ён жа асёл...

## ХТО ЧЫТАЎ

— Сябры мае! — звярнуўся пастар да прыхаджан. — Сёння я буду гаварыць аб ілгунах. Хто з вас чытаў псалм 69-ы ад Мацея?

Падняўся лес рук.

— Вось і цудоўна! — уцешыўся свяшчэннаслужыцель. — Паколькі такі псалм наогул не існуе, казанне ўсім пойдзе ў карысць.

## У ШПІТАЛІ

У шпіталь уносяць чалавека з прабітай галавою. Сястра, спешна выпісваючы медыцынскую карту, пытае:

— Імя?

— Кастусь Кучаравы.

— Жанаты?

— Не. Аўтамабільная катастрофа.

## СЫН І БАЦЬКА

— Глядзі, тату, самалёт ляціць!

— Добра, толькі рукамі не датыкай.

## АБ'ЯВА Ў МАГАЗІНЕ

«Прадметы, купленыя вашым мужам самастойна, могуць быць абменены па аўторках ад 10 да 12 гадзін».

*Гэты малы далёка пойдзе.*

## ПРАФЕСІЯ

Муж і жонка збіраюцца ў госці.

— Цяпер, даражэнькі, ты павінен забыць пра сваю прафесію.

— Як жа я павінен сябе паводзіць?

— Перастаць мацаць пульс у кожнага, хто падае табе руку.

## НА СТАДЫЁНЕ

— Зірні, Кастусь, вось у таго бегуна з чырвонай хусткай на плячы, памойму, усе шансы на перамогу...

— Магчыма, але гэта ў яго не хустка, а язык...

## НА ТРЫБУНЕ

Прамоўца з крамяным настроем
Б'е ў грудзі: «Падвоім!
Патроім!..»
...Аж пяць рабрын паламаў,
Пакуль пытанне ўзнімаў.

*Васіль Зуёнак*

*Навічок*

## У РЭСТАРАНЕ

— Ты чаму так часта пазіраеш на гадзіннік?

— Урач загадаў перастаць піць, пакуль не позна.

* * *

У парыжскім бары адзін з наведвальнікаў п'е чарку за чаркай. Сусед гаворыць яму:

— А вы не ведаеце, што паводле статыстыкі штогод два мільёны французаў памірае ад алкаголю?

— Магчыма, але мяне гэта не хвалюе. Я англічанін.

* * *

На другі дзень пасля сяброўскай вечарынкі Антон апамятаўся ў бальніцы, захутаны ў бінты з галавы да пят.

— Што здарылася? — пытае ён спалоханы.

— Не памятаеш? — здзіўляецца сябар. — Ты пад поўнач расчыніў акно і, звяртаючыся да нас, сказаў: «Хлопцы, паглядзіце, я зараз палячу, як матылёк!»

— І вы мяне не спынілі? — крычыць параненны.

— А навошта ж? Мы сапраўды верылі, што ты можаш лятаць!

## ЧАМУ

— Не разумею, чаму гэты мужчына выкінуў мяне з дому, калі я пацалаваў яго кухарку.

— Ведаеш, яго жонка сама гатуе абеды.

## ВАЛОЎ З'ЕЎ

Калісьці селянін прадаваў на кірмашы валоў. Далі яму за іх сто рублёў адной паперкай. Палажыў ён яе паміж блінамі. Хадзіўхадзіў па кірмашы ды і сеў паабедаць. Выняў бліны, пачаў есці. Даядае, бачыць — у руках застаўся толькі кавалачак сторублёўкі. Ён як закрычыць на ўвесь кірмаш:

— Людзі добрыя! Ратуйце! Я валоў з'еў!

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Надзі, Ірэны, Валі, Рэні, Алі, Лілі, Басі, Гені і Олька з Фальваркаў Тыльвіцкіх Беластоцкага павету змяшчаем песню

## Dobra miłość

**słowa: Kazimierz Szemioth**
**muzyka: Janusz Kępski**

Dobra miłość między nami,
tak delikatna jak aksamit,
taka piękna jak witraże,
prowadzi marzeń ogrodami.

Wiodą nas jej ślady w posiwiałe sady,
pól rozległy bezkres, gdzie nie kłamie serce.
Ale już odchodzi ten dzień, co ją zrodził,
już go los odmienił, przysłoniły cienie.

Tak bardzo bym chciała raz jeszcze usłyszeć
pulsującą ciszę, która nas jednała,
która nas uczyła, jak przywołać miłość,
jak z jej rąk wywróżyć, czy zostanie dłużej...

Dobra miłość między nami,
Czy oprócz ciebie ktoś ją da mi?
Taką czułą, taką wierną,
kto znajdzie perły między łzami?

Kto dotykiem dłoni, każdy lęk przegoni?
Znów dziś mi się śniła nasza dobra miłość...

*— Я ж прасіў цябе выпусціць шасі, а ты што зрабіў?*

# КУРЁЗЫ

## МАРАФОНЕЦ НА МЫЛІЦАХ

«Неверагодным дасягненнем» назвала дацкая газета «Берлінгске тыдэндэ» вынікі, дасягнутыя Фрыдрыхам Бергам у марафонскім забегу па маршруту Капенгаген — Эльсінор — Капенгаген. Дыстанцыю ў 100 кіламетраў Берг прайшоў за 22 гадзіны 45 мінут. Вынік гэты нядрэнны, калі ўлічыць, што «спартсмен» без абедзвюх ног і ішоў на мыліцах.

## ДАЛОЎ ГАЛЬШТУК!

Пераважная большасць мужчын у Чэхаславакіі лічыць гальштук нязручнай часткай адзення. Такі вывад зрабілі спецыялісты на аснове апытання, што праведзена навукова-даследчым тэкстыльным інстытутам у горадзе Ліберэц. 85 працэнтаў апытаных мужчын заявілі, што яны адчуваюць сябе лепш без гальштука.

## ЯК У КІНО...

Герой многіх амерыканскіх фільмаў «вестэрнаў» — удалы каўбой, выдатны стралок і граза індзейцаў Буфало Біл з любой прычыны выхоплівае кольт і страляе. Дрэнны прыклад, заразлівы. Нядаўна ў адным з рэстаранаў горада Буфало сямідзесяцігадовы наведвальнік выхапіў пісталет і застрэліў мужчыну, які сядзеў за суседнім столікам. «Ён балбатаў вельмі гучна», — спакойна заявіў забойца паліцэйскім. Сапраўды, Фрэнк Уітфілд, як звалі забітага, гаварыў вельмі гучна — яго субяседнік быў глухаваты.

## ПРОСІЦЬ ПРАБАЧЭННЯ

На тэлефонныя званкі сакратар-аўтамат манатонна адказвае: «Доктар у адпачынку. Доктар просіць прабачэння». Так у пачатку жніўня жыхар Сен-Мора (Францыя) абзваніў 18 доктараў, перш чым пачуў адказ жывога.

# МІЖ НАМІ

*Часам, каб лыжка дзёгцю не сапсавала бочкі мёду, дзёгаць падсалоджваюць.*